Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

29 (537) 22 ліпеня 2010 года

Кошт **свабодны**













Глыбачане на фестывале мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску»

Таццяна Ламан

# Ñâÿòàÿ Ãàííà çàïðàøàå ¢ Ëó÷àé



■ Ксёндз Мікалай ЛІПСКІ, *пробашч лучайскага касцёла*

26 ліпеня адзначаецца ўрачыстасць Святых Яўхіма і Ганны — бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі. Яўхім быў старым святаром. Ён жыў у Ерузалеме разам з жонкай Ганнай, якая таксама паходзіла са святарскага роду з Бэтлеема. Доўгі час у іх не было дзяцей. Аднойчы Анёл абвясціў Яўхіму, што ў іх з'явіцца дзіця. Праз пэўны час Ганна нарадзіла дзяўчынку, якую назвалі Марыяй. Калі Марыі было 3 гады, бацькі прывялі яе ў святыню, каб ахвяраваць Богу, і неўзабаве пасля гэтага васьмідзесяцігадовы Яўхім памёр. Па рашэнні II Ватыканскага Сабору Касцёл узгадвае святых Яўхіма і Ганну разам. Яны з'яўляюцца апекунамі маладажонаў і сем'яў увогуле, заступніцтва святой Ганны просяць для жанчын, якія чакаюць нараджэння дзіцяці.

У лучайскім касцёле ўрачыстая Святая Імша ў гонар Святых Яўхіма і Ганны адбудзецца ў суботу, 24 ліпеня. Пачатак у 16 гадзін. Пасля працэсіі з Найсвяцейшым Сакрамантам, будзе наладжана гулянне і забавы з нагоды парафіяльнага фэсту. З канцэртам выступяць гурт моладзі "Маран Ата" грэка-каталіцкай супольнасці з Брэста і народны эстрадны ансамбль "Скіфы" з Пастаў". Будзе магчымасць палятаць на паветраным шары, патанчыць, падсілкавацца, убачыць феерверк. Усіх чакае шмат іншых прыемных сюрпрызаў.

25 ліпеня (нядзеля) – успамін святога Крыштафа, апекуна вадзіцеляў. Асвячэнне транспарту пасля святой Імшы ў 16:00.

Сардэчна запрашаем ў Лучай духоўна адпачыць і разам памаліцца!

Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ðàçáîðê³ ïàñÿðîä íî÷û

■ Чэслаў Якубовіч

**Асобных нашых суайчыннікаў хлебам не кармі, а дай толькі магчымасць у любы час сутак прыкласціся да чаркі.**

Вось і малады пастух з СВК "Жвіранка" Шаркоўшчынскага раёна ўзрадаваўся, калі позна вечарам да яго падышоў з бутэлькай гарэлкі павесяліць душу разам раней судзімы жыхар суседняга Браслаўскага раёна. Ён хоць і быў на 20 гадоў старэй свайго сабутэльніка, але прапанаваў "абмыць" сваё нядаўняе вызваленне з калоніі. 32-гадовы жывёлавод, вядома, на гэта ахвотна згадзіўся, бо ў прыцемках весялей бяжыць час за размовамі. Але як гэта часта здараецца ў падобных выпіўках, слова за слова пасля некалькіх чарак нечаканыя сябрукі моцна заспорылі паміж сабой. Пасля "турэмных універсітэтаў" псіхіка ў тых, хто іх прайшоў, нікуды не вартая. І няпрошаны госць моцна абурыўся і пакрыўдзіўся на быццам непаважлівыя адносіны да сябе. Для застрашэння ён схапіўся за нож. Але і пастух, разагрэты градусамі, не спужаўся і стаў махаць перад носам свайго крыўдзіцеля тапаром. На эмоцыях сварка перайшла ва ўзброеную бойку, якая завяршылася смерцю старэйшага мужыка. На целе ахвяры следчыя знайшлі каля 15-ці страшнай сілы ўдараў, за што раз'юшаны вясковец за забойства можа надоўга таксама адправіцца ў турму.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Êàí³êóëû äëÿ âàíäðîâàê

■ Станіслаў Раманчук

**Лепшага часу, як летнія канікулы, для аздараўлення, адпачынку і развіцця асобы проста не знайсці. Нават у паважным узросце памятаюцца многім тыя школьныя паходы і падарожжы.**

Раней за іншых на Мёршчыне, якая славіцца сваёй прыродай, архітэктурнымі помнікамі і старажытнымі паркамі, пачаў знаёміць дзяцей з мінулым роднага краю вядомы настаўнік і краязнаўца Вітольд Ермалёнак. Цяпер яго ініцыятыву прадаўжаюць многія калегі, а сёлетнім летам у раёне было арганізавана для школьнікаў адразу 5 пераcоўных турысцкіх лагераў. Для кожнага з іх быў распрацаваны свой арыгінальны маршрут. У прыватнасці, выхаванцы Чапукоўскай СШ дэталёва азнаёміліся з экалагічнымі асаблівасцямі мясцовай славутасці – гідралагічным заказнікам "Ельня". Маршрут вучняў Мёрскай СШ № 2 прайшоў па буйнейшых азёрах і ўзвышшах Браслаўскага раёна. Іх аднагодкі з СШ № 1 райцэнтра пешшу абышлі лепшыя помнікі прыроды краю. Па мясцінах жорсткіх баёў мінулай вайны вучні Паташнянскай СШ прайшлі сумесна з воінамі-пагранічнікамі. Дарэчы, падчас такіх вандровак дзецьмі раней былі знойдзены шэраг цікавых рэчаў, якія папоўнілі экспазіцыю гісторыка-этнаграфічнага музея ў райцэнтры.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ïàãðàíãàðàäîê ëÿ ãðàí³öû

■ Кастусь Александровіч

**Усё больш абуладкаванай і сучасна тэхнічна аснашчанай становіцца дзяржаўная граніца Беларусі, асабліва на заходнім накірунку.**

Вось і днямі ў вёсцы Ярэва, што ў Пастаўскім раёне, адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця тут, на адлегласці ўсяго 2 км ад мяжы з Літвой, аднайменнага пагранічнага гарадка. Пагранпост "Ярэва" ахоўвае ўчастак дзяржаўнай граніцы працягласцю амаль 40 км. Дагэтуль штодзень пагранічныя нарады дастаўляліся сюды за 20 км да месца нясення службы, што прыносіла пэўныя нязручнасці.

Цяпер умовы працы і быту воінаў кардынальна палепшыліся. Будаўнікі мясцовага прадпрыемства "Рассвет Пастаўскі" пастараліся здаць гэты важны аб'ект, чацвёрты па ліку па заказу Дзяржпагранкамітэта з выдатнай якасцю работ. Акрамя 6-кватэрнага жылога дома для сем'яў афіцэраў і прапаршчыкаў узвялі комплекс неабходных пабудоў. Парадаваўся за сваіх калег беларусаў з нагоды навасельля і начальнік літоўскай пагранзаставы "Адуцішкіс" Альгірдас Андруленіс, прывёз падарунак. Галоўнае, што гэты паграгарадок поўнасцю аўтаномны, аснашчаны сучаснымі сістэмамі тэлекамунікацыі і відэаназірання. Пад адным дахам размясцілі службовыя памяшканні, пакоі для адпачынку і спальні. Тут ёсць таксама спартгарадок,сталовая, гаражы, кацельня, свая АЗС і нават гадавальнік для службовых сабак, створаны ўсе ўмовы для паспяховага нясення службы.

# Íàòðû ïðàÿ¢íûÿ ïàâûøàíûÿ ðîçí³÷íûÿ öýíû íà ãàðýëêó

**У Беларусі з 16 ліпеня на 3% павышаныя рознічныя цэны на гарэлку. Як паведаміла прэс-служба Міністэрства эканомікі, такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове ведамства № 116 ад 12 ліпеня 2010 года.**

Дакументам прадугледжана павышэнне на 3% рознічных цэн на гарэлку ў стандартнай шматабаротнай шкляной тары і мінімальных адпускных цэн на іншыя віды алкагольнай прадукцыі моцнасцю звыш 28%.

Пастанова прадугледжвае "выраўноўванне рознічных цэн на асобныя найменні гарэлкі ў сувязі з удасканаленнем тэхналогіі іх вытворчасці і паляпшэннем якасных характарыстык". Папярэдняе павышэнне рознічных цэн на гарэлку (на 5%) адбылося ў снежні 2009 года.



Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 22.07.10 | | | | пятн.23.07.10 | | | сб. 24.07.10 | | нядз.25.07.10 | | 26.07.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +18 | +25 | +32 | +27 | +19 | +27 | +33 | +20 | +35 | +20 | +31 | +21 | +26 |
| Ціск, мм | 747 | 748 | 748 | 746 | 746 | 746 | 746 | 744 | 744 | 743 | 746 | 743 | 744 |
| Вільготнасць, % | 86 | 67 | 45 | 73 | 92 | 62 | 35 | 80 | 24 | 57 | 34 | - | - |
| Вецер м/сек | В 1 | Ю-В 2 | Ю 3 | Ю-В 3 | Ю-З 2 | В 1 | Ю 3 | Ю-В 2 | Ю-В 5 | Ю-В 3 | Ю-В 4 | С 1 | В 4 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У адпаведнасці з пастаўленай кіраўніцтвам краіны задачай большасць раёнаў Беларусі поўнасцю ўключыліся ва ўборку збожжавых культур. Таксама вырашана з 1 студзеня 2011 года знізіць падатковую нагрузку на беларускіх грамадзян і адмяніць шэраг падаткаў для суб'ектаў гаспадарання, у прыватнасці, мясцовы збор на развіццё тэрыторый. На фоне некаторага паляпшэння сітуацыі ў эканоміцы Нацбанк РБ з сярэдзіны ліпеня зноў знізіў стаўку рэфінансавання да 11,5 % гадавых. У Беларусі таксама плануюць увесці забарону на продаж алкаголю асобам маладзей 21 года.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Германія.** Канстытуцыйны суд ФРГ завалілі скаргамі супраць маштабнага ўдзелу краіны ў агульнаеўрапейскай праграме стабілізацыі еўра, што быццам супярэчыць Канстытуцыі.

**Украіна.** Урад краіны прадставіў ЕС і Расіі праект, які можа стаць альтэрнатывай рускаму газаправоду "Паўднёвы струмень" без удзелу пасрэднікаў па дне Чорнага мора.

**ЗША.** У пачатку лета за месяц яшчэ 125 тыс. амерыканцаў страцілі працу, на таргах у свеце нафта і золата імкліва таннелі, інвестары чакаюць 2-ю хвалю эканамічнага крызіса.

**Літва.** У порце Клайпеда сёлета можа пачацца сумесна з Беларуссю будаўніцтва тэрмінала зжыжанага прыроднага газу, на праект пойдзе 600 млн. EUR і 2-3 гады працы.

**Японія.** Тут сталі прадаваць па 125 $ самыя танныя ў свеце мабільнікі навейшага пакалення iPhone 4, у Беларусі іх кошт зашкальвае да 3 тыс. $ і яны не сертыфікаваны.

**Казахстан.** Уступленне ў Мытны саюз аслабіла і без таго слабы дзяржбюджэт краіны з дэфіцытам 5,5 млрд. $, пачаўся рост цэн на прадукты харчавання да ўзроўню расійскіх.

**ЗША.** З 2011 года ўсім жадаючым пачнуць прадаваць лятаючыя аўтамабілі коштам 194 тыс. USD, але на іх трэба атрымаць правы на кіраванне лёгкімі спартыўнымі самалётамі.

**Малдова.** У цэнтры сталіцы ў асобным будынку адчыніцца музей дэпартацый і ахвяр таталітарнага рэжыма, побач будзе ўстаноўлены помнік ахвярам масавых рэпрэсій, голада.

**Украіна.** Усіх чыноўнікаў краіны 1-й і 2-й катэгорый па новаму закону аб дзяржслужбе абавязалі ведаць як мінімум адну з афіцыйных моў ЕС (англійскую альбо французскую).

**Чэхія.** Новы прэм'ер-міністр краіны Пётр Нечас адмовіўся ад аховы паліцыі і службовага аўтамабіля Audi, бо даўно прывык хадзіць на працу пешшу і не баіцца нападаў на сябе.

**Расія.** Пасля трагічнай гібелі на Азоўскім моры 6 дзяцей з Масквы і іх выхавацеля падчас купання па ўсёй краіне прайшлі дадатковыя праверкі ўсіх аздараўленчых лагераў.

**Польшча.** Краіна адной з першых у ЕС прыняла папраўкі ў закон, які дазваляе прымусовую кастрацыю злачынцаў-педафілаў хімічным спосабам без іх на тое згоды.

**Арменія.** Бюро ПА праграмы ЕС "Усходняе партнёрства" падтрымала прапанову краіны правесці восенню 1-е пасяджэнне парламента "Еўранест" без прадстаўнікоў Беларусі.

**Расія.** У расійскай сталіцы Маскве ўстанавілі ўнікальны вялізны помнік у выглядзе бутэлькі з сеткі, унутры якой рэшткі бітых аўтамабіляў, што трапілі ў жудасныя аварыі.

**Англія.** У ходзе скарачэння дзяржрасходаў намецілі закрыць кожны трэці мясцовы суд ніжэйшай інстанцыі, працу страціла і маці прэм'ер-міністра, дзе яна адпрацавала 30 год.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Жодзіна.** Работнікі БЕЛАЗа не былі здзіўлены рашэннем Венесуэлы набыць частку дзяржпакета акцый іх прадпрыемства, восенню ў Мінску пытанне вырашыць У.Чавес.

**Мінск.** На калегіі Міністэрства культуры Беларусі міністр Павел Латушка сказаў, што ў краіне будзе забаронена артыстам спяваць пад плюсавую фанаграму з запісамі голасу.

**Гродна.** Генконсульства Польшчы ўвяло ў дзеянне электронную рэгістрацыю для жадаючых атрымаць карту паляка, такіх за месяц набіраецца некалькі дзесяткаў тысяч.

**Мінск.** Рэакцыяй Крамля на паводзіны афіцыйнага Мінска стаў паказаны на тэлеканале НТБ дакументальны фільм-расследванне "Крёстный Батька", на які груба абурыўся БРСМ.

**Гомель.** Славутая тэнісістка Марыя Шарапава праз 10 гадоў наведала горад сваіх бацькоў, пазнаёміла жывучую тут бабулю са сваім бойфрэндам – баскетбалістам Сашам Вуячычам.

**Мінск.** Нават на рэзервнае тэсціраванне па краіне не з'явіўся 135 чалавек з 1268 зарэгістраваных, тэсты ў Беларусі здавалі сёлета 82 % выпускнікоў школ (летась 92 %).

**Жлобін.** 26-гадовы экскаватаршчык з райцэнтра стварыў падпольную лабараторыю па вырабу наркотыкаў у суседнім Рагачоўскім раёне, яго затрымалі ў Гомелі з палічным.

**Мінск.** Сума прэміяльных героям Алімпіяд 2012 і 2014 гадоў у Лондане і Сочы значна павялічылася, за залаты медаль беларускі алімпійскі чэмпіён атрымае 150 тысяч USD.

**Магілёў.** Фірму "Савіт" сур'ёзна ўстрывожыў прыход на айчынны рынак гарадніны буйной літоўскай кампаніі IPSUN, якая выкупіла УП "Белфін" і мае вялікія сувязі ў ЕС.

**Мінск.** Услед за першым будаўнічым гіпермаркетам "ОМА" інвестары да 2015 года ўзвядуць яшчэ 6 такіх буйных гандлёвых цэнтраў коштам 100 млн. $, з іх – 3 у сталіцы.

**Зельва.** Акрамя пабудовы тут вугальнай электрастанцыі патрэбна ўзвесці і ЛЭП на 330 кВ працягласцю 83 км да Ліды, каб прывязаць станцыю да беларускай энергасістэмы.

**Мінск.** Адразу 8 сталічных банкаў сталі фігурантамі крымінальнай справы аб махлярстве ў буйных памерах, якіх "кінуў" на 55 млн. руб. крэдытаў жыхар Гродзеншчыны і скрыўся.

**Гомель.** На тэрыторыі вобласці пачалі будаваць палігон для далейшай перапрацоўкі адпрацаваных батарэек, збор якіх ў Беларусі будзе арганізаваны да канца гэтага года.

**Смаргонь.** Ля вогнішча ў бліндажы часоў 1-й Сусветнай вайны каля вёскі Крэва загінуў 18-гадовы хлопец, 8 яго сяброў былі паранены, калі тут узарваўся падкладзены снарад.

**Мінск.** Толькі на правядзенне спаборніцтваў пад эгідай "Прэзідэнцкага спартыўнага клуба" з 2005 года з дзяржбюджэту пайшло 3,5 млрд. рублёў, ім кіруе сярэдні сын Дзіма.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Толькі з аднаго боку паспелі да "Славянскага базара" зашкліць 27-метровы бізнес-цэнтр "Марко-сіці" ля Летняга амфітэатра, гігантаманія цяпер паўсюду ў горадзе.

**Бешанковічы.** У брацкай магіле на высокім беразе Дзвіны перазахавалі астанкі яшчэ 26 салдат мінулай вайны, з якіх удалося ўстанавіць толькі адно імя байца па яго медальёну.

**Гарадок.** За 120 млн. рублёў райкамунгас купіў для цэнтральнай кацельні айчынны частотны рэгулятар эканомнага цеплазабеспячэння, расход электраэнергіі знізілі ў 2 разы.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе чакаюць дазволу Офіса ветэрынарыі ЕС на экспарт сваёй прадукцыі ў краіны Еўрасаюза, раней яе прызналі якаснай і бяспечнай.

**Сянно.** Камітэт дзяржкантролю высветліў, што з 2005 года так і не завяршыўся рамонт аварыйнай Багданаўскай СШ, зацягнуўся рамонт сенненскіх сярэдніх школ № 1 і № 2.

**Віцебск.** З-за недахопу грошай і дэфіцыту часу ўлады адклалі адкрыццё помніка ахвярам віцебскага гетта, выйшаў канфуз і з адкрыццём да Дня горада яшчэ трох помнікаў.

**Паставы.** Генпракуратура Беларусі сумесна з МУС па справе злачыннай бандыцкай групоўкі арыштавала 8 чалавек, яшчэ трое з гэтай банды асуджаны за двайное забойства.

**Расоны.** Усяго за 59 млн. рублёў фонд "Віцебскаблмаёмасць" прадаў прыватнай фірме "Эфект" будынак і абсталяванне мясцовага камбіната прамтавараў і яшчэ 472 млн. даўгоў.

**Віцебск.** З восені мінулага года на 15-20 % патаннелі кватэры ў горадзе, дзе прапановы на жыллё значна перавышаюць попыт, старую аднапакаёўку можна купіць і за 19 тыс. $.

**Орша.** Тэрыторыю мясцовага дзіцячага дома ўпрыгожылі 8 драўляных казачных скульптур, якія вырабілі з дрэва за два дні на пленеры лепшыя майстры Віцебшчыны.

**Полацк.** За спробу крадзяжу "Жыгулёў" у нецвярозым стане суд асудзіў двух 22-гадовых гараджан, адзін раней судзімы атрымаў 3 гады "хіміі", другі – 1 год папраўчых работ.

**Сянно.** Падчас рэканструкцыі царквы св. Пятра і Паўла ў гарпасёлку Багушэўск храм упрыгожылі новыя пазалочаныя купалы, выраблены ў Брэсце за сабраныя грошы людзей.

**Верхнядзвінск.** Начальнік аддзела фізкультуры, спорту і турызма райвыканкама Вячаслаў Багушэвіч зноў разам са здымачнай групай АНТ паехаў у Францыю на "Бітву цітанаў".

**Глыбокае.** У сярэдзіне лета ў райцэнтры запрацавалі адразу два новыя фантаны ў скверы на цэнтральнай плошчы, адзінай у РБ без помніка У. Леніну, і ля школы мастацтваў.

**Віцебск.** Перад сваім сольным канцэртам народны артыст РФ Юрый Антонаў даведаўся, што зноў стаў ардэнаносцам, ўлады Беларусі яго ўзнагародзілі ардэнам Ф. Скарыны.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**581** – столькі абітурыентаў у Беларусі, па дадзеных Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, не набралі падчас здачы ўступных тэстаў ніводнага бала па 100-бальнай шкале. Выпадак увогуле ўнікальны і засмучае тых, хто верыў у высокі ўзровень айчыннай сістэмы сярэдняй адукацыі. Праўда, цэнтралізаванае тэсціраванне ў краіне сёлета здавалі ўсяго 172 тысячы юнакоў і дзяўчат і, на жаль, большасць з іх не паказалі высокага ўзроўню атрыманых у школах, вучылішчах і тэхнікумах трывалых ведаў, неабходных у XXI стагоддзі.

Самае сумнае, што тэсціраванне паказала нізкі ўзровень ведання моладдзю дакладных навук. Зусім нізкі вынік па матэматыцы – 20 балаў са 100 і ніжэй – паказалі 72 тысячы чалавек са 112 тысяч юнакоў і дзяўчат, якія запісаліся на гэты тэст. Між тым, каб стаць студэнтам 1-га курса з бюджэтнай формай навучання прэтэндэнтам на жаданы студэнцкі білет трэба было набіраць, як падлічана, мінімум 55 балаў. Вынік 30 балаў і вышэй на іспытах па матэматыцы з'яўляецца сёлета прахадным рубяжом для таго, каб стаць студэнтам, але на платнай аснове. Вынікі выпрабаванняў па фізіцы зусім сумныя: амаль 75 % абітурыентаў ( 37, 3 тыс. чалавек) набралі па гэтаму прадмету 20 і меней балаў.

Падлічаныя балы па іншых прадметах школьнай праграмы таксама не дадаюць аптымізму. Тут ці самі тэсты былі складаныя, ці моладзь моцна хвалявалася, але сёлета практычна кожны трэці выпускнік не змог атрымаць адзнаку 20 балаў (фактычна, двойка па ранейшай сістэме ацэнак) на тэстах па беларускай, рускай,англійскай, нямецкай і французскай мовах. Крыху лепшыя вынікі на экзаменах па хіміі і па іспанскай мовах. Дарэчы, хімію беларускія школьнікі ў гэтым годзе ведалі найлепш, а вось фізіка – самы нізкі ўзровень ведаў.

Іншая справа, што вышэйшая адукацыя цяпер у Беларусі – стала фактычна платнай, бо з 10 студэнтаў дзённай формы навучання ужо болей 6 чалавек атрымоўваюць выбраныя прафесіі на платнай аснове. Большасці маладых людзей не пашанцуе аб'ектыўна з-за малой колькасці бюджэтных месцаў стаць першакурснікамі. Нават з вялікай сумай набраных балаў большасці абітурыентаў айчынныя ВНУ прапануюць залічэнне за немалую плату ў параўнанні з ўзроўнем зарплат іх бацькоў.

Як на грэх, напэўна, у прадчуванні абяцаных 500-доларавых зарплат усе беларускія ўніверсітэты і акадэміі ў новым навучальным годзе ўжо павысілі плату за вучобу ў сярэднім на 300-500 тысяч рублёў. Так, каб стаць студэнтам-медыкам 1-га курса лячэбнага і педыятрычнага факультэтаў неабходна заплаціць за год навучання амаль 1800 $. А вось калі хочаш у будучым лячыць зубы людзям, рыхтуй ужо 2180 долараў, а калі наперадзе яшчэ 5 гадоў вучобы, то набягае кругленькая сума ў быццам бы сацыяльнай дзяржаве рыначнага сацыялізма.

Нават у сёння прэстыжнай прэзідэнцкай Акадэміі кіравання год вучобы стаў каштаваць 3,990 млн. рублёў. Каб стаць юрыстам у сучаснай Беларусі і атрымаць дыплом на юрфаку БДУ, спатрэбіцца выкласці больш 25 млн. рублёў. Зараз на руках у абітурыентаў атрыманыя сертыфікаты ведаў і час рашаючага выбара, куды пайсці вучыцца з набранай сумай балаў. У апошнія дні прыёму дакументаў у большасці ВНУ будзе сапраўдны ажыятаж. Сапраўднымі шчасліўшчыкамі адчувалі сябе толькі 84 юнакі і дзяўчаты, якія здалі ўсе прапанаваныя тэсты на 100 балаў.

У гэтым спаборніцтве найлепшы вынік, як і чакалася, у мінчан – 35 выдатнікаў. Найгоршы паказчык у Віцебскай вобласці, дзе сапраўднымі трыўмфатарамі адчуваюць сябе толькі 3 маладыя чалавекі. Такім чынам, з ліку здаваўшых сёлета тэсты з кожных дзесяці толькі 6 чалавек прэтэндуюць на месцы ў ВНУ, яшчэ меней, усяго 15 % - на бясплатнае навучанне. Яшчэ адна сумная беларуская рэалія: у большасці ўстаноў адукацыі месц у студэнцкіх інтэрнатах кот наплакаў.

Абяцаная студэнцкая вёска ў Мінску толькі будуецца, здалі там у ёй пакуль адзін сучасны ўтульны інтэрнат. Для большасці беларускіх сем'яў пачынаецца восенню цярністы шлях да дыплома спецыяліста. Але за знаходжанне ў студэнцкай аўдыторыі і за здымны пакой у кватэры цяпер трэба выкласці кругленькую суму грошай большасці сем'яў суайчыннікаў.

## Глыбачане на фестывале мастацтваў
# «Славянскі базар у Віцебску»



У чарговы раз Віцебск прымаў удзельнікаў і гасцей Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». На сем дзён «северная сталіца» акунулася ў святочную атмасферу песень, танцаў, выстаў, конкурсаў. 10-11 ліпеня на пляцоўцы ля Цэнтра народнай творчасці і рамёстваў «Дзвіна» ў рамках фестывалю праходзіла III абласное свята-конкурс па саломапляценні «Папараць-кветка». У конкурсе ўдзельнічала 52 майстры з Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай абласцей. Два дні майстры выраблялі конкурсныя работы і праводзілі майстар-класы па саломапляценні і аплікацыі саломкай. Глыбочыну прадстаўлялі: Таццяна Ламан, майстар па саломапляценні народнага клуба майстроў народнай творчасці «Крыніца» і Марыя Ермаловіч (на здымку справа), метадыст-майстар па саломапляценні Глыбоцкага Дома рамёстваў. Па выніках двух дзён работы М.Ермаловіч заняла 1 месца ў намінацыі «Развіццё традыцыі ўтылітарна-дэкаратыўнага вырабу», Т.Ламан заняла 2 месца ў намінацыі «Саламяная скульптура». Віншуем майстроў з перамогай!

*Карнеева Т.Г., дырэктар Глыбоцкага Дома рамёстваў*

## Запрашаем на 100-годдзе Задарожскаму касцёлу

15 жніўня 2010 года, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл у Задарожжы будзе адзначаць 100-гадовы юбілей. А 13-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць кс. біскуп Уладзіслаў Блін і шматлікія святары. Пад час гэтай Святой Імшы адбудуцца дыяканскія пасвячэнні. Пасля імшы – канцэрт, прысвечаны 100-годдзю касцёла.

Сардэчна запрашаем усіх прыняць удзел у гэтых урачыстасцях, а асабліва тых, хто ў гэтым касцёле прымаў святыя сакраманты.

*кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы.*




Паштоўка з відарысамі праекта Задарожскага касцёла, 1900-ыя гг. Набыццё паштоўкі – грашовая ахвяра на будаўніцтва касцёла.



# Фінал конкурсу «Нявеста года Беларусі» адбудзецца ў Мінску 16 верасня

**Фінал конкурсу «Нявеста года Беларусі» адбудзецца ў Мінску 16 верасня, паведаміла 14 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску арганізатар конкурсу кіраўнік рэсурсу Povod.tut.by Святлана Салановіч.**

Паводле яе слоў, конкурс на лепшую нявесту краіны будзе праводзіцца ў тры этапы. Падчас першага тура, адборачнага, дзяўчаты да 1 жніўня павінны даслаць арганізатарам сваю анкету, эсэ пра першае каханне і мінімум тры фатаграфіі (буйны план, партрэт і фота ў купальніку).

Паводле слоў Салановіч, у адборачным туры асаблівая ўвага будзе надавацца арганізацыйным пытаням, ці зможа дзяўчына прыехаць на два тыдні ў Мінск, размясціць свае фатаграфіі ў інтэрнеце, ці адпавядае ўзроставым рамкам конкурсу ад 18 да 30 гадоў.

Далей дзяўчаты будуць запрошаны на кастынг, падчас якога прадэманструюць свае таленты. Па выніках кастынгу будзе адабрана па тры дзяўчыны ад кожнай вобласці і Мінска, якія з 5 па 15 верасня прыедуць у Мінск, будуць жыць у гатэлі «Вікторыя» і рыхтавацца да фіналу, наведваць курсы дэфіле, прымяраць вясельныя сукенкі, рыхтаваць творчыя нумары.

Арганізатары звяртаюць увагу на тое, што мадэльная знешнасць у гэтым конкурсе не мае вырашальнай ролі. «Дзяўчына павінна быць прывабнай, цікавай і адукаванай», адзначыла Салановіч. Таксама, паводле яе слоў, няважна. ці мае ўдзельніца маладога чалавека.

Пераможца атрымае ў падарунак пуцёўку на дваіх у адну з экзатычных краін з пражываннем у пяцізоркавым гатэлі на 10 начэй. Падарункі ад спонсараў атрымаюць і ўсе астатнія дзяўчаты.

Асобна будуць вызначацца пераможцы ў намінацыях «Нявеста байнету» пры дапамозе анлайн-галасавання на сайце povod.tut.by і «Нявеста- Камсамолка» пры дапамозе SMS-галасавання чытачоў газеты «Комсомольская правда» в Белоруссии».

У рамках фестывалю будзе таксама праходзіць конкурс сярод вясельных відэааператараў. Удзельнікі павінны даслаць вясельнае відэа памерам не больш за 45 Мб да 15 жніўня. Ролікі будуць размешчаны ў інтэрнеце, але пераможцу вызначаць прадстаўнікі кампаніі Panasonic. Лепшы аператар атрымае новую відэакамеру.

*Людміла Назарчык, БелаПАН.*

# На Віцебшчыне працягваюцца пошукі Атлантыды



**Шосты мастацкі пленэр з цыклу «У пошуках Атлантыды» прайшоў на мінулым тыдні ў вёсцы Лучай Пастаўскага раёна.**

Такія пленэры штогод праводзяцца ў невялікіх вёсачках, дзе ёсць архітэктурныя помнікі, якія патрабуюць увагі і рэстаўрацыі, або іншыя славутасці, якія варта захаваць для нашчадкаў.

Чарговыя пошукі беларускай Атлантыды традыцыйна сабралі разам мастакоў з Мінска, Гомеля, Віцебска, Наваполацка, Паставаў, Верхнядзвінска.

Асноўнай крыніцай натхнення для майстроў палатна і пэндзля гэтым разам стаў касцёл Святога Тадэвуша – помнік архітэктуры 18-га стагоддзя, які сумясціў у сабе рысы барока і класіцызму. Дарэчы, ля ўваходу ў храм у 2008 годзе быў усталяваны адзіны ў Беларусі і першы ў свеце помнік Папу Рымскаму Бенедыкту XVI.

«Кожны раз, прыязджаючы ў такія невялікія вёсачкі, я дзіўлюся прыгажосці пейзажаў, архітэктуры, багатаму гістарычнаму мінуламу, – падзялілася з «Хімікам» сваімі ўражаннямі адна з ініцыятараў дадзенага праекта – раней полацкая, а цяпер мінская мастачка Кацярына Мяснікова. – Беларусь для шматлікіх сваіх жыхароў – Terra Incognita. Я вельмі радая, што дзякуючы выставам па выніках пленэраў «У пошуках Атлантыды» людзі могуць пазнаёміцца з выдатнымі куткамі сваёй краіны».

«Пошукі Атлантыды» традыцыйна працягваюцца тыдзень, а па іх выніках праводзіцца некалькі выстаў у розных гарадах. Раней былі праведзены пяць пленэраў (Лявонпаль, Дзісна, Друя, Асвея, Опса) і 20 выстаў.

*http://ximik.info*

**Анатоль Тарас:**

# “На Грунвальд ішлі палачане і мсціслаўцы, а вярталіся – беларусы”

■ Міхась Скобла

**Міхась Скобла:** «Спадар Анатоль, да гэтага часу вы даследавалі пераважна беларуска-расейскія гістарычныя дачыненні – войны Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім. Што падштурхнула вас з усходняга кірунку перайсці на заходні й напісаць кнігу пра Грунвальд?»

**Анатоль Тарас:** «Я так не стаўлю пытанне – з усходняга кірунку на заходні… Проста я лічу, што нам трэба папулярызаваць выдатныя падзеі і постаці беларускай гісторыі. А калі мы зірнем на нашу гісторыю і нашых выдатных людзей, то ўбачым, што Грунвальд – гэта найвыдатнейшая перамога. Яна мела значны ўплыў на ўсю нашу гісторыю ў складзе ВКЛ, Рэчы Паспалітай і нават у складзе Расейскай імперыі. Трэба папулярызаваць перамогі і дасягненні, слынных асобаў, каб пра нас не гаварылі, што беларусы на працягу стагоддзяў жылі ў галечы, былі непісьменныя.

Калі наша літаратура будзе на ўзроўні „трох лыжак заціркі“, то каго мы выхаваем на такіх прыкладах? Выхаванне моладзі, выхаванне нацыі павінна грунтавацца на выдатных падзеях, на дасягненнях, на тым, чым можна ганарыцца. І Грунвальд тут стаіць наперадзе».

**Скобла:** «Я стараюся прыгадаць кнігі пра Грунвальд, і прыходзяць на памяць толькі дзве – Алеся Краўцэвіча і Кастуся Тарасава. Чаму гэтая тэма так і не стала прыцягальнай для нашых літаратараў?»

**Тарас:** «Наогул, многія падзеі часоў ВКЛ, традыцыйна так павялося, аддаваліся то палякам, то жамойтам (продкам летувісаў), то расейцам, і накіраўся відавочны занапад нашай гістарычнай думкі ў гэтым кірунку. Галоўнай тэмай былі, як вы ведаеце, партызаны, потым – барацьба за савецкую ўладу. А тэма Грунвальду кранае і Польшчу, і Летуву, і Нямеччыну, і Расею, і Украіну. Відаць, нашы творцы лічылі, што грунвальдская тэма даволі слізкая, і лепш яе не чапаць. Мне так здаецца».

**Скобла:** «Падчас любой бітвы павінна быць адзінаўладдзе, і загады павінен аддаваць адзін чалавек. З вашай кнігі вынікае, што Вітаўт пайшоў у наступ на крыжакоў, не ўзгадніўшы свае дзеянні з Ягайлам. Дык хто быў галоўнакамандуючым на Грунвальдскім полі?»

**Тарас:** «Фармальна, галоўнакамандуючым быў кароль Уладыслаў (Ягайла), а рэальна – былі дзве асобныя бойкі. На правым флангзе біліся нашы продкі, на левым – палякі.

Гэта потым польскія гісторыкі й пісьменнікі



усе лаўры аддалі Ягайлу, але гэта не так насамрэч. Біліся паасобку.

А галоўнакамандуючага над імі не было, і ў тым была вялікая небяспека. Хоць палякаў з беларусамі было больш, хоць і татары дапамагалі, хоць і план быў добры, выпрацаваны Вітаўтам, але ўсё роўна крыжакі маглі атрымаць перамогу. Каб не здрадніцтва ў іх шэрагах, так і магло здарыцца, бо, на жаль, адзінага галоўнакамандуючага ў беларусаў і палякаў не было. Галоўнакамандуючым назвалі Ягайлу, бо ён быў каралём, а кароль вышэй за вялікага князя. Вышэй – і ўсё, гэта так, як доктар навук вышэй за кандыдата. Можа, кандыдат і разумнейшы, але доктар лічыцца больш кампетэнтным. Так і тут. А што было ў рэальнасьці? Можа, Ягайла хацеў, каб ліцьвінаў, беларусаў пабілі, бо яны з Вітаўтам былі „заклятымі сябрамі“. Хто забіў бацьку Вітаўта? Ягайла. А хто забіў братоў Ягайлы? Вітаўт».

**Скобла:** «Яшчэ са студэнцкіх гадоў мне помняцца радкі Уладзіміра Караткевіча з яго „Паэмы пра явар і каліну“: „Хадзем, народ беларускі, на Мар'енбург і Берлін!“. Але крыжацкая сталіца Мальбарк так і не была ўзятая пасля Грунвальду. Атрымліваецца, што канчатковай перамогі ВКЛ і Польшчы над Ордэнам так і не было?»

**Тарас:** «Вітаўт быў добрым палітыкам, і ён вёў сваю палітычную гульню. Ён, па-першае, дамовіўся з Лівонскім ордэнам, які прымаў удзел у гэтай бойцы толькі адной харугвай. Вітаўт лічыў, што не варта браць Мальбарк, бо гэта ўзмацніць Польшчу, а ўзмацненне палякаў яму было невыгодным. Ён сабраў свае войскі і пайшоў дахаты, хоць Ягайла вельмі прасіў застацца і працягваць аблогу далей. Вітаўт сваёй мэты дасягнуў. Вайна з крыжакамі ішла за Жамойцію, і Жамойцію ён атрымаў. А чаму яго павінна былі хваляваць Польшча і яе мэты? Вялікае Княства атрымала ўсё, што хацела, а Польшча – не ўсё, і польскія гісторыкі аб гэтым пісалі. І калі кажуць, што Грунвальдская бітва не мела добрых вынікаў, то маецца на ўвазе – для Польшчы. А нашы продкі атрымалі ўсё, што хацелі».

**Скобла:** «Параза – заўсёды сірата, а ў перамогі заўжды многа бацькоў. 100 гадоў таму ў Кракаве быў узведзены конны помнік Ягайлу, там таксама знайшлося месца Вітаўту – пад капытамі Ягайлавага каня. Такое стаўленне да Грунвальду ў Польшчы было 100 гадоў таму. А як ацэньваюць гэтую бітву сучасныя польскія гісторыкі?»

**Тарас:** «Так яны і цяпер ацэньваюць. Яны пішуць, што пад Грунвальдам змагаліся таксама продкі беларусаў, летувісаў, украінцаў, але галоўную ролю ў гэтай бойцы адыгралі палякі. Для іх тут няма пытання для спрэчак. Пра што тут спрачацца – чытайце Сянкевіча, у яго ўсё сказана. Палякі змагаліся як львы, а астатнія прысутнічалі. Польшча, Польшча і яшчэ раз Польшча… Вось і ўсё. З гледзішча кожнага нацыяналіста так і павінна быць. Беларусам трэба яшчэ павучыцца ў палякаў, бо мы саромеемся казаць пра велізарную ролю беларусаў у гісторыі. А Беларусь і беларусы ўдзельнічалі ў шмат якіх гістарычных падзеях».

**Скобла:** «Калі „павучыцца“ ў палякаў, то ў Мінску трэба ставіць конны помнік Вітаўту з Ягайлам пад капытамі…»

**Тарас:** «Гэта будзе не па-беларуску. Па-беларуску будзе, калі стаяцьме велізарны помнік Вітаўту, і ніякі Ягайла і блізка не паявіцца. Навошта нам нейкі Ягайла? Калі мы гаворым аб навуковых даследаваннях – нам трэба імкнуцца да аб'ектывізму. Але калі гаворка ідзе пра прапаганду для масаў – прыкладна так і трэба дзейнічаць. Бо хто будзе капацца ва ўсіх фарбах і падрабязнасцях? Гэта нікому не патрэбна. Вы паглядзіце, якія фільмы здымае сёння Расея. Напрыклад, фільм „Тарас Бульба“. Дзе там той Гоголь, там бачна, што змаганне ідзе не за Украіну, а за Расею. Гэта ж трэба было так зрабіць! Я глядзеў фільм, і ў мяне вочы на лоб лезлі – ніякай Украіны няма! Вось вам прыклад дзяржаўнай прапаганды».

**Скобла:** «На Грунвальдскую перамогу прэтэндуюць і літоўцы. Давайце не будзем залазіць глыбока ў гісторыю. Проста назавіце колькасць харугваў на Грунвальдскім полі – з тэрыторыі сённяшняй Беларусі і з цяперашняй Летувы».

**Тарас:** «Лічбы тут вельмі простыя. З тэрыторыі сучаснай Беларусі пад Грунвальд прыйшлі 23 харугвы: Аршанская, Ашмянская, Берасцейская, Быхаўская, Ваўкавыская, Віцебская, Гарадзенская, Драгічынская, Друцкая, Заслаўская, Кобрынская, Крычаўская, Крэўская, Лідская, Лукомльская, Магілёўская, Менская, Мсціслаўская, Наваградская, Нясвіжская, Пінская, Полацкая, Слонімская, Слуцкая. І 8 харугваў з тэрыторыі гістарычнай Беларусі: дзве Віленскія, Медніцкая, Мельніцкая (з Падляшша), Смаленская, Стародубская, дзве Троцкія. А з тэрыторыі сучаснай Летувы былі тры харугвы: Вількамірская (цяпер горад Укмерге), Ковенская (цяпер Каўнас) і Ужпольская – (раён Вількаміра). І толькі адной з іх камандаваў жамойцкі ваявода Яўніс, астатнімі камандавалі нашы продкі».

**Скобла:** «У 2000 годзе ў Расеі выйшла кніга „100 вялікіх бітваў“, дзе дадзена расейская версія Грунвальдскай бітвы. Няўжо і Масква хоча быць пераможцам над немцамі не толькі ў Берліне ў 1945-м, але і ў 1410-м пад Грунвальдам?»

**Тарас:** «Масква хоча быць пераможцам усюды – ад Антарктыды да Арктыкі. Расейцы пісалі й пішуць, што пад Грунвальдам былі тры Смаленскія харугвы, і яны „рускія“. Але, па-першае, Смаленск у тыя часы быў незалежным княствам, якое не было пад Масквой яшчэ шмат часу, больш за стагоддзе. Па-другое, ніякіх „рускіх“ тады наогул не было, дакладней, „рускімі“ называліся жыхары сучаснай Украіны (русіны). І па-трэцяе, на Грунвальдскім полі змагаліся не тры Смаленскія харугвы, а адна, і ўзначальваў яе князь Лугвен Альгердавіч, які пасля прыняцця праваслаўя стаў называцца Сімяонам. Пішуць пра „рускую“ Наўгародскую харугву. Але і Ноўгарад у тыя часы таксама быў незалежнай дзяржавай – „господин великий Новгород“, і ваявалі найміты на грошы наўгародцаў. Тое ж і з „рускай“ Смаленскай харугвай. Ніякіх там „рускіх“ не было. Але так пісалі. І пачалося гэта ў савецкія часы. Калі пагалядзець дарэвалюцыйную энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, то там можна знайсці, што пад Грунвальдам былі таксама і Смаленскія харугвы, але ёсць удакладненне – беларускія. На жаль, вынаходніцтвы савецкай гістарыяграфіі і цяпер на ўзбраенні ў Расеі».

**Скобла:** «Вы пішаце, што пад Грунвальд ішлі палачане, гарадзенцы, віцябляне, мсціслаўцы, а назад вярталіся беларусы. Наколькі правамерна ўжываць да тагачасных людзей гэты тэрмін – беларусы?»

**Тарас:** «У папулярных працах правамерна і мэтазгодна. Нашы продкі па-рознаму называліся, і што з таго? Гэта ж былі нашы продкі. Аляксей Мікуліч у сваёй кнізе „Беларусы ў генетычнай прасторы“ паказаў, што цягам 3000 гадоў і генетычна, і антрапалагічна нашы продкі не змяняліся. Аніякіх міграцыяў тут не было, ніхто нас не захопліваў. Дык чаму мы павінны лічыць, што гэта былі не беларусы? А хто яны былі – неандэртальцы, кітайцы? Тут спрадвеку жылі беларусы. Проста тады не было такой назвы. І што з таго? Каб папулярызаваць свае гістарычныя канцэпцыі, мы маем права так казаць».



■ **А.В. Протас**,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Рыба не клюе таму, што ўсё возера – ў сетках

**Своеасаблівым нацыянальным здабыткам Беларусі заўсёды была і застаецца прырода. Ад стану навакольнага асяроддзя шмат у чым залежыць лёс дзяржавы. Маючы багатыя прыродныя рэсурсы, дзяржава можа паўнавартасна развівацца і мы, грамадзяне, абавязаны ўсяляк садзейнічаць захаванню нашых багаццяў.**

Аднак, штодня падчас праводзімых рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікі інспекцыі выяўляюць цэлы букет правапарушэнняў, асабліва ў перыяд гарачых дзён. Практычна, каля кожнага вадаёма шмат адпачывальнікаў, машыны стаяць каля самай вады, грамадзяне мыюць машыны, тут жа і купаюцца, берагі закіданы смеццем, а побач адпачываюць людзі. Возьмем да прыкладу возера Бяглец, адзін бераг добраўпарадкаваны, чысты, а на процілеглым беразе ўжо ўтварылася смеццевая звалка, няма ніводнага смеццевага бака, усё застаецца на зямлі.

Возера Доўгае, з'яўляецца заказнікам рэспубліканскага значэння і рэжым возера мае шэраг абмежаванняў, але вакол вадаёма арганізаваныя несанкцыянаваныя стаянкі, смецевыя звалкі, але ж гэта наш з вамі здабытак, а адпачываць неабходна не ў шкоду прыродзе.

Возера Псуеўскае, адно з самых рыбных у нашым раёне. Тут штодня шмат рыбаловаў-аматараў, але і браканьераў яшчэ больш. Штотыдзень супрацоўнікі інспекцыі затрымоўваюць на возеры Псуеўскае браканьераў з сеткамі. Так, 18 ліпеня 2010 года каля 5 гадзін раніцы супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін М. з сеткамі і рыбай, а пры абследаванні возера супрацоўнікамі інспекцыі канфіскавана яшчэ больш 200 метраў сетак. Тыднем раней затрыманы 2 мясцовыя жыхары з сеткамі, у адносінах якіх узбуджана крымінальная справа за незаконную здабычу рыбы. Рыбакоў на возеры вельмі шмат, але ўсе робяць выгляд, што нічога не адбываецца, няма браканьераў, сетак. Але, у гутарках паміж сабою абураюцца, рыба не клюе таму, што ўсё возера ў сетках. Маўклівае сузіранне, як вядома, спараджае ўсёдазволенасць і беспакаранасць, часовую.



Усе затрыманыя браканьеры на возеры Псуеўскае ажыццяўлялі сваю незаконную лоўлю навідавоку ў дзясяткаў рыбакоў, і ніводны рыбак не паведаміў работнікам інспекцыі пра браканьерства. Прынцып, мая хата з краю, я нічога не заўважаю, ці як страусы, галаву ў пясок і ўсё звычайна.

Прыведзеныя лічбы і прыклады сведчаць пра тое, што не ўсё добра ў нас з аховай прыродных рэсурсаў, але парушальнікам неабходна задумацца, ці варта рызыкаваць, незаконна здабываць рыбу або дзічыну.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку ўсім грамадзянам, якія аказвалі дапамогу ў навядзенні парадку ў нашых лясах і на вадаёмах.

Тэлефоны «гарачай лініі» : 8 – 02156 – 2-86-70 - кругласутачна
897-23-02, 890-55-28 ці 249-45-49 МТС.

■ **Алесь Гай**

# Перапалох у лясных браканьераў

Сюжэтам для гэтага артыкула паслужыў дыялог дзвюх жанчын, які адбыўся на рынку 18 ліпеня. Адна гандлявала чарніцамі і стаяла ў яе тры вядры ягадаў, іншая, магчыма, знаёмая, стаяла побач.

– Няўжо рукамі столькі чарніцаў сабрала?

– Ты што, даражэнькая! Такой спёкай? Камбайнам, толькі камбайнам!

– І не баішся?

– Зразумела, баюся. Гэты Протас такі перапалох нарабіў. Адны кажуць – на матацыкле "лётае" па лесе, іншыя – на "Масквічу". Але я, яшчэ да збору ягадаў, адвезла ў лес тры камбайны. Яны ў трох месцах прыхаваныя. Праўда, адзін згубіла, ніяк знайсці не магу. Так што ў лес і з лесу я чыстая – ўязджаю і выязджаю.

Гэтыя тры вядры амаль усю ноч перабірала. Ты ж бачыш, якія кошты. Вельмі выгадны бізнес.

Вось такая адбылася размова на нашым Цэнтральным рынку.

Ад сябе асабіста і ўсіх аматараў прыроды хацелася б выказаць удзячнасць А.В. Протасу, начальніку Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету за наведзены парадак у нашых лясах і на нашых вадаёмах. Вялікі перапалох у лясных грабежнікаў! А інакш гэтых людзей і не назавеш!

Практычна ў кожным нумары "Вольнага Глыбокага" змяшчаюцца матэрыялы А.В. Протаса на гэтую і іншыя падобныя тэмы.

Аўтар гэтага матэрыялу некалькі разоў прайшоўся па чарнічніках, па тых месцах, дзе калісь прайшліся лясныя браканьеры з камбайнамі. Страшэннае відовішча! Няма там ні лісцяў, ні ягадаў. Дзенідзе, знізу, адна ягадзіна захавалася. Гэтым людзям – закон не пісаны! Спадарства, што з намі зрабілася! Любым коштам – грошы, грошы! Ніякай маралі. Гэтае ўсёпаглынаючае слова – бізнес!

Што застанецца нашым дзецям і ўнукам? Не хвалюе гэта грабежнікаў лесу! Ведаюць і самі лясныя браканьеры, што на будучы год, на тое самае месца збору ягадаў, не варта ехаць. Чарніцаў там доўга не будзе!

Вось, напрыклад, Чорны Ручай… Гектарамі стаіць чарнічнік, а ягадзіны – ніводнай! Так і хочацца звярнуцца да гэтых лясных браканьераў: " Гэта – наш край! Наша родная зямля! Гэта – наша багацце! Беражыце яго!"

У гэты самы дзень (18 ліпеня) я размаўляў з аматарам збору ягадаў Пятром П. Ён – сапраўдны аматар, сумленны чалавек. Калі ўбачыў, як нейкі спадар мырцуе самаробным камбайнам пры зборы чарніцаў, дык ён адразу звярнуўся з паведамленнем у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету. Паболей бы такіх аматараў лесу, як Пётр П. Тады можна быць спакойным за будучыню нашых прыродных багаццяў.

Шмат якія рыбаловы-аматары, аматары лесу, звярнуліся да мяне з такім пажаданнем: прапанаваць кандыдатуру А.В. Протаса, начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету на званне "Чалавек года". Пакуль мы не ведаем, як гэта зрабіць. Магчыма, "Вольнае Глыбокае" падкажа.

**Ад рэдакцыі.** Без сумневу, А.В. Протаса нашыя чытачы могуць лічыць "Чалавекам года-2010". Фактычна, у кожны нумар ён прадстаўляе матэрыялы, тэматыкай якіх ёсць ахова жывёльнага і расліннага свету на тэрыторыі Глыбоцкага і прылеглых раёнаў нашай вобласці. Матэрыялы самыя чытаемыя. Бачна і работа самой інспекцыі. Браканьераў усё менее, а людзей, якім не абыякава нашая прырода - более.

Аднак, "Чалавек года-2010", у такім варыянце, выглядае толькі як версія "Вольнага Глыбокага". Алесь Гай, калі правільна яго разумеем, прапануе кандыдатуру А.В. Протаса на званне "Чалавека года Глыбоччыны-2010". А гэта - досыць афіцыйнае званне, а не версія хаця якой газеты. Можам прапанаваць адзін законны спосаб: спадару Гаю і аднадумцам сабраць хаця б 30 подпісаў грамадзянаў. Зарэгістраваць у райвыканкаме. Па закону, на працягу месяца, улады павінныя даць пісьмовы адказ на зварот грамадзянаў. Калі зарэгістраваць, напрыклад, тры звароты асобна і ў кожным - па 10 подпісаў, то і тры адказы мусяць напісаць улады. Дзейнічайце!



Архіў «ВГ», 2009 г. Рэйд па Галубіцкай пушчы. Уладзіслаў Баляслававіч Кабылінскі, дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету высвятляе, для якіх мэтаў грамадзянін прыхапіў з сабой у лес так званы «камбайн». *Фота Ул. Скрабатуна.*



У Івана Казіміравіча Дубовіка, інжынера па ахове лесу Глыбоцкага доследнага лясгаса (крайні справа) – багаты «ўлоў». Архіў «ВГ», 2009 г.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

26 ліпеня – 1 жніўня 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 26 ліпеня




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** Здоровье.
**10.05** Женское ток-шоу.
**11.05** Комедия **«Не родись красивой»**.
**12.10** Мелодрама **«Испытание Акилы»**.
**14.10** Д/ф «Моя правда».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Сериал **«Молоды и счастливы»**.
**16.25** Мелодрама **«Всегда говори «всегда»-2"**.
**17.25** Комедия **«Не родись красивой»**.
**18.25** Видеофильм АТН «Прости меня».
**18.50, 00.45 «Зона Х»**.
**19.25** «КЕНО».
**19.30** Видеофильм АТН «Лилия Пташук».
**19.55** Комедия **«Участок»**.
**21.00** Панорама.
**21.55** Триллер **«Флэш.ка»**.
**00.00** Сериал **«Герои-3»**.
**00.50** День спорта.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Однажды в Париже. Далида и Дассен».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Однажды в Париже. Далида и Дассен». Продолжение.
**11.30 «Моя жена меня приворожила».** Сериал.
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.30** «Хочу знать».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.Сериал.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**. Комедия.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05 «Ермоловы»**. Сериал.
**22.05 «Остаться в живых»**. Сериал.
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25** Фильм «Пророк и бесы».
**00.20** Фильм **«Говорящая с призраками»**.
**01.05** Наши новости.
**01.20-01.30** Новости спорта.

ЛАД
ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Сериал **«Универ»**.
**08.30** Час суда.
**09.25** Сериал **«Любовь как любовь»**.
**10.30** Комедия **«Спасибо за все»**.
**12.05** «Пра мастацтва».
**12.30** Школа ремонта.
**13.30** Мелодрама **«Полюби меня снова»**.
**14.25** Мультсериал «Доктор Дог».
**14.50** Внеклассный час.
**15.05** Простые упражнения.
**15.35** Детектив **«Налетчики»**.
**16.25** Час суда.
**17.25** Врачебные тайны.
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**.
**19.05** Детектив **«Умножающий печаль»**.
**20.05** «Два нашэсця».
**20.50** Калыханка.
**21.10** Сериал **«Универ»**.
**21.45** Детектив **«Налетчики»**.
**22.35** Комедия **«Даже не думай-2: Тень независимости»**.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «У парадного подъезда».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель». Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** Концерт Михаила Задорнова.
**15.35** «Звездный ринг».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: фильм **«КАРАСИ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».





**23.25** «Кіно»: **«НЕ ГОВОРИ НИ СЛОВА»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Моўнік
**07:40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**08:05** Басанож па свеце.
**08:30** Побач з намі (тэлечасопіс)
**08:45 «Легенда Грунвальду»**, дак. фільм.
**09:40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма)
**09:45 «Таямніца крэпасці шыфраў»**, тэлесерыял.
**10:30 «Загадкі Мэрдака»**, дэтэктыўны серыял.
**11:15 «Танцы з ваўкамі»** , маст. фільм.

**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Папялушка»**, тэлесерыял.
**17:30 «Таямніца крэпасці шыфраў»**, тэлесерыял.
**18:15** Аўтастопам праз Еўропу.
**18:35** «Пень, поўны волава», дак. фільм.
**19:00** Прэс-экспрэс
**19:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:30** «Надзвычай прыгодніцкія падарожжы Цюхці», мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння.
**20:10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**20:35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «7 разоў Масква» .
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў)
**21:40 «Танцы з ваўкамі»**, маст. фільм.
**00:10** Аб'ектыў

